

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

14 (160) ВЕРАСЕНЬ 2013 ГОД


ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## КАМУ ВЫГАДНА СКАРАЧЭННЕ СЕЛЬСАВЕТАЎ?

**На Шумілінშчыне прайшло грамадскае абмеркаванне па аптымізацыі органаў мясцовага самакіравання. У прыватнасці, да 5 верасня было прапанавана выказаць думку аб неабходнасці ці аб немэтазгоднасці скарачэння аднаго з васьмі сельсаветаў раёна шляхам далучэння (аб'яднання) двух у адзін.**

Яшчэ сёлетняй вясной у красавіку выйшаў указ кіраўніка дзяржавы аб аптымізацыі органаў дзяржаўнага кіравання і іншых дзяржаўных арганізацыяй. Працэй кажучы, у бюджэце краіны стала не хапаць грошай на ўтрыманне чыноўнікаў бюракратычнага апарату Аляксандра Лукашэнкі. Таму насельніцтву даводзяць рашэнні аб неабходнасці эканоміі на пярвічных структурах органаў кіравання. А рэарганізацыю ўлады вырашылі пачаць са скарачэння колькасці сельсаветаў ва ўсіх раёнах краіны.

На сённяшні дзень на тэрыторыі Шумілінскага раёна выконваюць свае функцыі восем сельсаветаў: Сіроцінскі, Светласельскі, Обальскі, Мікалаеўскі, Мішневіцкі, Каўлякоўскі, Лаўжанскі, Дабейскі. Пасля рэарганізацыі ў выніку скарачэння на карце раёна застануцца сем сельсаветаў.

Варта адзначыць, што рэарганізацыя датычыцца вясковага насельніцтва і, у пераважнай большасці, старых людзей, якія не толькі не карыстаюцца інтэрнэтам, але і не выпісваюць раёнку. Таму ніякай інфармацыі наконт таго яны мець не будуць. Праўда, правядзенне сходаў жыхароў населеных пунктаў прадугледжвалася. Аднак ясна, што і пры такой колькасці насельнікаў практычна нерэальны ўдзел у мерапрыемствах большасці грамадзян. Відавочна, што адміністрацыйны падзел раёна адбудзецца і без удзелу ў абмеркаванні шырокіх колаў насельніцтва.

На сайце дзяржаўнай раёнкі "Герой працы" за паўтара месяца апублікавана ўсяго 16 каментароў па праблеме рэарганізацыі сельсаветаў. За ліквідацыю аднаго сельсавета з васьмі існуючых не выказаўся ніхто. Больш таго, амаль усе наведвальнікі форума выказаліся супраць скарачэння мясцовых сельвыканкамаў. Грамадзяне лічаць, што пасля закрыцця сельсавета яшчэ хутчэй паскорыцца занепад вёсак на яго тэрыторыі. Да таго ж ліквідацыя сельвыканкама пацягне за сабой і закрыццё школ, ФАПаў, сельскіх клубаў, аддзяленняў сувязі, сельскіх філіялаў КБА і іншых аб'ектаў. Апроч таго, узрасце нагрузка на работнікаў аб'яднаных з двух у адзін сельсаветаў. У выніку павелічэння абшараў абслугоўваемай тэрыторыі як работнікам мясцовай улады, так і жыхарам аддаленых вёсак будзе намнога складаней дабірацца да сельскага адміністрацыйнага цэнтра. Вядома, што кожны год здымаюцца і аўтобусныя маршруты.

Да прыкладу, удзельнік грамадскага абмеркавання пад нікам "Заинтересованный" напісаў: "Уже досокращались. Как ликвидировали Язвинский сельсовет, Козьянский, так и деревне конец. Совхоза и колхоза нет. Школам конец. Прямой результат. Соедините еще – и еще погибнут пару центров (Сиротино, Добея.) Хотя построили агрогородок в Амбросовичах, а сельсовет и хозяйство в Добее". Мае рацыю і жыхарка вёскі Слабада: " Сокращение сельсоветов – это мера, выгодная государству… Но ведь у нас социальное, демократическое государство. Неужели нас, граждан, опять обманут – выслушают, а сделают "как надо"? Мы, местные жители, против объединения сельсоветов, потому что понимаем: это мероприятие ухудшит качество нашей жизни, приведёт к вымиранию некоторых деревень, которые живы пока благодаря сельсоветам…И это ещё не все негативные последствия! А в результате – и государство окажется в проигрыше…Стоит хорошо подумать, прежде чем экономить, сокращая сельсоветы".

Так, вёска старэе і вымірае. Гэта ўжо ўстойлівая тэндэнцыя. Некалі квітнеючыя мястэчкі ператварыліся ў закінутыя населеныя пункты, дзе дажываюць век некалькі дзесяткаў пенсіянераў з калгаснікамі. І сельсаветы яе не выратуюць ад дэградацыі. Моладзь з усіх сіл ірвецца ў горад, а хто застаецца, ад безнадзейнасці, немагчымасці рэалізаваць сябе, зарабіць на годнае жыццё, апускаюцца, співаюцца. Аднак што тычыцца эканоміі дзяржаўных сродкаў, на якую разлічваюць раённыя ўлады ад ліквідацыі аднаго сельсавета, то значнай эканоміі наўрад ці атрымаецца. Людзі могуць падказаць, на кім, дзе і як можна сэканоміць. Скараціце колькасць работнікаў Шумілінскага райвыканкама. Калі бываеш там, заўсёды здзіўляешся - хто гэтыя людзі, што яны там робяць з такім важным выглядам? Навошта іх так шмат у такім шыкоўным чатырохпавярховым будынку? Нешта не прыпамінаем, каб каго небудзь з іх мы калісьці выбіралі. А між тым, яны чамусьці вырашаюць лёс нашай вёскі, прадпрымальніцтва, бальніц, школ, грамадскага транспарту. Хто ім даў такое права? Складваецца ўражанне, што яны выседжваюць на сваіх мяккіх крэслах немалыя зарплаты, высокія пенсіі, множачы пры гэтым нікому не патрэбныя паперы і нараджаючы абсурдныя інструкцыі, якія толькі замінаюць людзям жыць.

**Аляксандр Шчамлёў**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

ДЭМАГРАФІЯ

## ШУМІЛІНЦАЎ БОЛЬШ ПАМЕРЛА, ЧЫМ НАРАДЗІЛАСЯ

**За ліпень месяц гэтага года на тэрыторыі раёна памерла 22 чалавекі. Нарадзіліся 19 немаўлят. Натуральныя страты пры гэтым склалі тры чалавекі.**

Колькасць насельніцтва Шумілінскага раёна па стане на 1 ліпеня 2013 года, па інфармацыі Белстата, склала 19 047 чалавек.

Восем дзетак нарадзіліся ў гарадскім пасёлку Шуміліна. На тэрыторыі Обальскага сельсавета з'явілася на свет 5 немаўлят, па аднаму – у Лаўжанскім і Светласельскім. Трое наваро джаных было зарэгістравана ў Сіроцінскім сельвыканкаме, двое – у Дабейскім. На тэрыторыі Каўлякоўскага, Мішневіцкага, Мікалаеўскага сельсавета не нарадзілася ніводнага немаўляці.

Крыху палепшылася статыстыка трываласці шлюбаў: за ліпень на 19 зарэгістраваных шлюбаў прыйшлося 2 разводы. Аднак яшчэ 12 сямейных пар падалі ў суд на развод: пакуль што ім далі тэрмін на прымірэнне.

Ад чаго найчасцей паміралі жыхары Шумілінщчыны ў ліпені? Старасць як прычына забрала 8 жыццяў, анкалогія – 4 жыцці, захворванні сістэмы кровазвароту – 2. Тры чалавекі заўчасна загінулі ад знешніх прычын, самагубствы прывялі да смерці двух жыхароў раёна.

**А. Прылуцкі**

З ЗАЛЫ СУДА

## ПІТУШЧУЮ МАЛАДЗІЦУ ПАЗБАВІЛІ БАЦЬКОЎСКІХ ПРАВОЎ

**Сацыяльныя службы Шуміліна адабралі траіх дзяцей ў нядбайнай маці за неадольную цягу да спіртнога.**

У лік нядобранадзейных сям'яў жанчына трапіла даўно. Да яе пастаянна наведваліся прадстаўнікі камісіі па справах непаўналетніх. Аднак неаднаразовыя шансы на выпраўленне сітуацыі нічога не змянілі. Маладзіца, якой не было і трыццаці гадоў, вяла разгульны лад жыцця, злоўжывала алкаголем.

Наадварот, утрыманская пазіцыя стала нормай. Як, дарэчы, і бруд, што панаваў ў хаце, неахайнасць, гультайства, п'янства, жыццё за кошт грашовай дапамогі на дзяцей. Таму сацыяльныя работнікі вымушаны былі часова забраць траіх дзяцей у гора-маці, якія апынуліся ў сацыяльна небяспечным становішчы. Гэта было зроблена з мэтай не столькі пакараць няўдалую матулю, колькі ў інтарэсах дзяцей. Каб яны было накормленыя, апрануты, дагледжаныя, не палохаліся п'яных мацерных зборышчаў. Двухгадовага хлопчыка змясцілі ў Дом дзіцяці ў Віцебск, а пяцігадовага хлопчыка і чатырохгадовую дзяўчынку ўладкавалі ў Обальскі прытулак.

Але і пасля гэтай меры адзінокую маладзіцу ніколі не цікавіў лёс уласных дзяцей. Больш хвалявалі пітушчыя мужчыны. Цяпер ужо нічога не перашкажала яе шчасцю з новым каханкам працягваць сумесныя загулы. І ніякія прафілактычныя гутаркі, чарговыя тэрміны на выпраўленне ўжо не дапамагалі, хаця жанчына на працягу шасці месяцаў магла вярнуць дзяцей з прытулку. Аднак ніводнага разу гэту магчымасць не скарыстала.

Суд палічыў, што тэрмін, адведзены маладой жанчыне на выпраўленне, паказаў: ніякіх зменаў да лепшага ў яе жыцці не адбылося. Дзеці не могуць расці і выхоўвацца з такой гора-маці. І пазбавіў яе бацькоўскіх правоў. Яшчэ трое дзетак засталіся сіротамі пры жывых бацьках. Дарэчы, у гэтым годзе пяцёра нядбайных бацькоў ужо былі пазбаўлены правоў, а 12 дзяцей набылі статус сацыяльных сірот.

**Я. Вайтовіч**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

## НОВЫЯ ТРАТУАРЫ

**Жыхароў Шуміліна радуюць новыя тратуары, якія пракладваюць па вуліцы Суворава.**

Нарэшце і на гэтым участку вуліцы дачакаліся добраўпарадкавання ходнікаў. Каля раённай бальніцы распачала працу брыгада асфальтаўкладчыкаў. Раней людзі шмат гадоў хадзілі па заасфальтаванай наспех вузкай, няроўнай дарожцы або наўпрост каля ўзбочыны дарогі, дзе пратапталі грунтовыя сцяжынкі. Як вядома, хадзіць па такім участкам нязручна: узімку там лёд і снег, увесну і ўвосень – бруд, улетку – пясок. Нямала людзей мусілі выходзіць на праезжую частку, што было небяспечна. Работы па будаўніцтву новых тратуараў вядуцца паабапал праезжай часткі ўздоўж вуліцы Суворава ад раённай бальніцы да магазіна пасёлка Светласельскі і Шумілінскай ветэрынарнай лячэбніцы. Пад асфальтавае пакрыццё падсыпалі падложку з пяску, выраўнялі, утрамбавалі. Ходнік абсталявалі новымі бардзюрамі.

Верагодна, асфальту зноў не хапіла, і работы прыпыніліся на напэўны час. Пакуль праклалі вузенькую палоску для пешаходаў, а пра веласіпедную дарожку давядзецца толькі марыць...

Праўда і тое, што будаўнічага матэрыялу пакуль не хапае. У некаторых месцах толькі часткова абнавілі старыя ходнікі. Дарэчы, у Шуміліне яшчэ шмат вуліц, якія патрабуюць будаўніцтва тратуараў з бардзюрамі – так што наперадзе непачаты край работы.

**Алесь Шумскі**

ЧЭМПІЯНАТ ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ ПА ФУТБОЛУ

# "ШУМІЛІНА"З РАЗГРОМНЫМ ЛІКАМ ПЕРАМОГ "ПЛОСКАЕ"

**У нядзелю 1 верасня на гарадскім стадыёне ў Шуміліне адбыўся футбольны матч паміж ФК "Шуміліна" і ФК "Плоскае" Талачын. Наша каманда перамагла з лікам 7:1**

Сустрэча пачалася з нападаў шумілінскіх футбалістаў. Вельмі хутка ў пачатку матчу вызначыўся голам форвард Станіслаў Прасветаў з падачы Дземідзенка. Дарэчы, Прасветаў ў гэтай гульні аформіў хет-трык (асыставаў Вадзім Пінягін) , што і дапамагло шумілінцам атрымаць пераканаўчую перамогу. Таксама ў першым тайме вызначыўся Віктар Райчонак. Лік стаў 4:0.

Другі тайм не парадаваў змястоўнай гульнёй. Нашы спартсмены спрабавалі вызначыцца ў індывідуальным класе. Але ў выніку гульня не ляпілася, што і дазволіла камандзе "Плоскае" забіць зваротны мяч. Але канцоўка ФК "Шуміліна" атрымалася: за пяць хвілін лік давялі да разгромнага 7:1. Галы забілі Дэсант, Саўчанка, Пінягін .

Пасля пераканаўчай перамогі ФК "Шуміліна" паднялося на трэці радок табліцы адзінаццатага тура .

Хатняя сустрэча з аўтсайдарам ФК "Плоскае" Талачынскі раён мела надзвычай важнае значэнне: у выпадку выйгрышу нашы землякі вяртаюцца ў тройку лідэраў. Далей працягваецца барацьба за выхад у першую лігу, у выпадку паразы шумілінскія футбалісты страцілі б усе шанцы за пуцёўку наверх.

**Алесь Прыбярэжны**

# І ЗНОЎ ПЕРАМОГА!

**У чарговым матчы Віцебскай вобласці па футболу ў другой лізе ФК "Шуміліна" у гасцях атрымаў перамогу.**

Гульня ў мінулую нядзелю праходзіла ў Чашніках, дзе шумілінскія футбалісты сустрэліся з мясцовым клубам "Алімп". Матч скончыўся з лікам 2:1 на карысць каманды "Шуміліна". Як і чакалася, ад самага пачатку гаспадары поля "селі на вароты" шумілінцаў. Аднак нашы агрызаліся вострымі контратакамі, што і дазволіла першымі адкрыць лік. Гол забіў Алег Шульжынскі. Галкіпер "Алімпа" здолеў адбіць мяч пасля ўдару па варотах Стаса Прасветава, але Шульжынскі, які аказаўся побач, не пакінуў яму шансаў.

У другім тайме абаронца "Алімпа" наўдала згуляў рукой, і суддзі нічога не заставалася, як прызначыць пенальці. Штрафны ўдар паспяхова рэалізаваў Ігар Дашкевіч. Аднак нягледзячы на поспех нашых футбалістаў, "Алімп" упарта працягвае атакаваць і за 20 хвілін да заканчэння матча нападаючым удаецца дастаць вароты шумілінцаў. Лік стаў – 2:1.

Наступны матч адбудзецца 15 верасня ў райцэнтры Лёзна. ФК "Шуміліна" будзе гуляць з лідарам групы "Дынама", ад якога наша каманду адстае ўсяго на тры ачкі.

**Сяржук Горкі**

# ФК "ШУМІЛІНА" ВЫЙШАЎ У ЛІДЭРЫ!

**У нядзелю 15 верасня шумілінская футбольная каманда выехала на сустрэчу ў Лёзна з мясцовым "Дынама". Доўгачаканы гол быў такі забіты на апошніх хвілінах матча.**

На гэты раз гульня была амаль што роўная. Хіба што на працягу матча гаспадары поля больш кантралявалі мяч. Зрэшты, не ствараючы пры гэтым небяспечных момантаў.

Калі ў нічыйным выніку гульні ўжо ніхто не сумняваўся, напрыканцы другога тайма вызначыўся Андрэй Шантур. Наш зямляк забіў рашаючы гол на трэцяй дабаўленай хвіліне да асноўнага часу матча.

Адзіны мяч у вароты лёзненцаў забяспечыў важную перамогу. У выніку ФК "Шуміліна" выйшаў на першае месца турнірнай табліцы ў другой лізе. Наступная гульня адбудзецца з гарадоцкім "Праменем".

# ТЭХНІЧНАЯ ПАРАЗА

**Кіраўніцтва Віцебскай абласной федэрацыі футбола адмяніла вынікі матча ФК "Шуміліна – ФК "Дынама" (Лёзна). У выніку сітуацыя ў турнірнай табліцы перавярнулася с ног на галаву.**

На апошнім паседжанні ў Віцебскай абласной федэрацыі футбола было вырашана адмяніць вынікі гульні ў Лёзне. Нагадаем, што ў нядзелю 15 верасня ў гасцях ФК "Шуміліна" здабыў перамогу над лёзненскім "Дынама" з лікам 1:0 на трэцяй дадатковай хвіліне.

Аднак лёзненцы вынікі сустрэчы апратэставалі з-за ўдзелу ў матчы ў складзе гасцей футбаліста, выдаленага ў папярэдняй гульні з поля. Пратэст каманды "Дынама" (Лёзна) быў задаволены, а сітуацыя ў турнірнай табліцы перавярнулася з ног на галаву. Шумілінцам залічылі тэхнічную паразу. Цяпер паводле рашэння ВАФФ футбалісты "Дынама" (Лёзна) атрымалі тэхнічную перамогу з лікам 3:0.

Сітуацыя з лідэрамі ў групе "Б" абвострылася да мяжы. Незразумела, як суддзі маглі дапусціць да гульні на полі гаспадароў выдаленага шумілінскага футбаліста? Ічаму пратэст з'явіўся пасля матча, які лёзненцы прайгралі? Зараз шумілінцы, якія пасля перамогі над "Дынама" ачольвалі гонку ў групе "Б", пасля тэхнічнага паразы апусціліся на пяты радок у турнірнай табліцы.

**Сяржук Горкі**

# ГАСПАДАРЫ ПОЛЯ ПРАЙГРАЛІ ГАСЦЯМ

**22 верасня ў 14-м туры чэмпіянату Віцебскай вобласці па футболе ў групе "Б" футбольны клуб "Шуміліна" гуляў на хатнім стадыёне супраць гарадоцкай каманды "Прамень".**

На баку гаспадароў быў 12 гулец – заўзятары ФК "Шуміліна", якія актыўна падтрымліваюць сваіх ігракоў на ўсіх матчах. Такую падтрымку нашым футбалістам ўжо аказвалі ў Гарадку на матчы першага круга. А на гэты раз на гарадскім стадыёне сабралася каля 500 аматараў футбола. Зараз да гульні яны падрыхтавалі сіні клубны сцяг вышынёй два метры і шырынёй сорак. Толькі цяпер, на жаль, моцная падтрымка аматараў не дапамагла гаспадарам поля.

У першым тайме гарадоцкім гасцям давялося зведаць імклівы націск ФК "Шуміліна" з актыўнай падтрымкай трыбун. Але ўсё ж першымі адкрылі лік футбалісты клуба "Прамень". Нягледзячы на гэта ў другім тайме шумілінцы яго зраўнялі з пенальці, які рэалізаваў Ігар Дашкевіч.

Аднак падчас гэтай драматычнай сустрэчы гасцям удалося вызначыцца за пяць хвілін да заканчэння матча. Гарадоцкі форвард Вячаслаў Мочкін пахаваў шанцы шумілінцаў выйсці на стыкавыя гульні другой лігі, паразіўшы другі раз браму гаспадароў.

Увынікушумілінцы прайгралі з лікам 1:2.

Пераможцамі падгрупы стала каманда "Дынама"(Лёзна) – 28 ачкоў, другое месца заняў гарадоцкі "Прамень" – 23 ачкі, а на трэцім каманда "Алімп" (Чашнікі) – 22 ачкі.

ФК "Шуміліна" заняў пяты радок турнірнай табліцы з 19 ачкамі.

**Алесь Прыбярэжны**

ЗДАРЭННІ

# ПАЖАР У КРАМЕ

**У вёсцы Крывое Сяло адбыўся пажар у краме Шумілінскага райспажыўтаварыства.**

31 жніўня ў шэсць гадзін раніцы загарэўся магазін у вёсцы Крывое Сяло Шумілінскага раёна. У гандлёвым зале крамы 10х10 м, які належыць Шумілінскаму райпо, знішчаны касавы апарат, электронныя шалі, пашкоджаны халадзільная вітрына "Дзвіна-150", стол. Прычына пажару высвятляецца.

# ПАЖАРЫ Ў ЖЫЛЫХ ДАМАХ

**Адразу два пажары адбыліся ў Шумілінскім раёне на працягу дня 15 верасня. Ёсць ахвяры.**

Паводле Віцебскага абласнога ўпраўлення МНС, 15 верасня на Шуміліншчыне здарыліся два пажары прыватных дамоў.

У вёсцы Кавалеўшчына Каўлякоўскага сельсавета а дванаццатай гадзіне дня загарэўся дом. У доме 5х8 м, ( прыналежнасць устанаўліваецца) знішчаны дах, столевае перакрыцце, пашкоджаныя маёмасць, сцены. У 12-20 знойдзены труп грамадзянкі, 1958 г.н., пенсіянеркі, якая самавольна засялілася ў гэты дом. Прычына пажару высвятляецца.

У той жа дзень а дзесятай гадзіне вечара адбылося ўзгаранне жылога дома ў вёсцы Ільінцы Дабейскага сельсавета.

Да прыбыцця падраздзяленняў МНС насельніцтвам выратавана гаспадыня дома і яе сын, сацыяльны работнік дзяржаўнай установы "Тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Шумілінскага раёна".

Як аказалася ў ходзе разбіральніцтва, гаспадыню дома і яе сына выратаваў дачнік (выбіў і выцягнуў праз аконны праём) грамадзянін Папалаў Аляксей Васільевіч, які пражывае ў Наваполацку.

У выніку пажару выратаваныя не пацярпелі. Гаспадыня шпіталізавана для назірання ў Шумілінскую раённую бальніцу у сувязі з пажылым узростам і скаргай на сэрца. Прычына пажару - устанаўліваецца.Разглядаемая версія прычыны пажару - неасцярожнае абыходжанне з агнём сына гаспадыні дома. У выніку пажару ў доме 8х10 м знішчаны дах, пашкоджаныя столевае перакрыцце, сцены, маёмасць.

**Паводле mchs.gov.by**

КРЫМІНАЛ

# РАСІЯ ВЫДАЛА Ў БЕЛАРУСЬ ШУМІЛІНЦА, ЯКІ СТРАЛЯЎ ПА АВЕЧКАХ

**Незвычайнае сафары адбылося яшчэ ў жніўні мінулага года. Двое маладых людзей з Шумілінскага раёна на легкавіку са стрэльбай палявалі на авечак.**
**Два маладыя жыхары Шумілінскага раёна вырашылі зладзіць беларускі варыянт сафары.**

Месцам ўдалага палявання быў вызначаны Гарадоцкі раён, у якасці дзічыны – авечкі адной з мясцовых гаспадарак. Асноўным сродкам перамяшчэння стала шыкоўная версія "кабрыялета" з перапрацаванага масквіча.

Паляўнічы разам з напарнікам-кіроўцам употай падабраўся да атары авечак, дачакаўся, пакуль пастухі адыдуць далей убок, а потым стрэліў з паляўнічай стрэльбы. Падхапіўшы падстрэлены "шашлык", стралок кінуўся да аўтамабіля.

Далей фартуна адвярнулася ад сваіх герояў. Ахоўнікі хутка апамяталіся ад падобнага нахабства і кінуліся ў пагоню. Заўважыўшы гэта, не абцяжараны цяжкай ношай вадзіцель ускочыў у машыну, спрабуючы схавацца. Аднак "кабрыялет" у самы адказны момант пачаў ўпарта глухнуць. Зламыснікі далёка не ад'ехалі - машына спынілася. Кіроўцу затрымалі супрацоўнікі праваахоўных органаў: занадта прыкметным апынуўся транспартны сродак.

А вось асноўны "герой палявання" паспеў уцячы ў Расію. Сёлета ў верасні яго экстрадыравалі ў Беларусь. Неўзабаве маладыя людзі стануць перад судом. Ім пагражае да чатырох гадоў пазбаўлення волі.

## Аб'ява

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведамце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.

*********

Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.

*********

Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».

КАЛІЙНЫ СКАНДАЛ

# БАЎМГЕРТНЕР , НА ВЫХАД!

**Гендырэктар « Уралкалія », падобна , вось-вось пакіне менскую « амерыканку » - сумна вядомую турму КДБ.**

На нарадзе 19 верасня **Аляксандр Лукашэнка** заявіў: *«Калі расійскія следчыя будуць зацікаўлены ў экстрадыцыі расейскага грамадзяніна Баўмгертнера, які намі затрыманы, то я тут не бачу асаблівых перашкод. Мы за яго абсалютна не трымаемся»*.

Гэта «не трымаемся» гучыць дзіўна нязмушана пасля таго, як расійскага топ - мэнэджэра, вераломна арыштаванага ў Беларусі 26 жніўня, толькі ляніві не назваў закладнікам калійнага канфлікту.

**Маўр зрабіў сваю справу**

Высновa просты: маўр зрабіў сваю справу , маўр можа выходзіць . Інакш кажучы, Лукашэнка, які рызыкаваў , пайшоўшы на дзёрзкі арышт важнай птушкі , па вялікім рахунку задаволены прамежкавым вынікам.

Прычым ўздым рэйтынгу беларускага прэзідэнта за кошт раскошна пададзенай прапагандай святой вайны з праклятымі алігархамі - толькі пабочны эфект. Галоўнае ж тое, што абкладзены чырвонымі сцяжкамі **Сулейман Керымаў**, асноўны саўладальнік «Уралкалія», мабыць, ужо сто разоў пашкадаваў, што пайшоў у ліпені на бліцкрыг, раптам разарваўшы картэльнае пагадненне з беларусамі, і цяпер ад граху далей гатовы прадаць сваю долю.

Гэта дае беларускаму боку шанец аднавіць сумесныя продажу стратэгічнага прадукту або , па меншай меры , зноў выйсці на ўзгадненне цэнавай палітыкі.

У актыве Лукашэнку і тое, што Крэмль праявіў ў гэтай гісторыі дзіўную стрыманасць , не палез у бутэльку ( тыпу « нашых б'юць» ), а наадварот, даў адмашку на прыезд у Мінск цэлай чарады «асоб, набліжаных да імператара».

Было ўражанне, што людзі , блізкія да Крамля , ці ледзь не занялі ў прыёмнай Лукашэнкі чаргу, каб парадаваць падарункамі. Кіраўнік « Раснафты » Ігар Сечын паабяцаў касьцьмі легчы, але забяспечыць беларускія НПЗ сыравінай. Кіраўнік «Газпрома» Аляксей Мілер вёў гаворку аб прыкладцы другой галіны Ямала - Еўропы і іншых укладаннях. А Герман Грэф ад імя Ашчадбанка Расіі прывёз 800 мільёнаў даляраў інвестыцый для БелАЗа і Мазырскага НПЗ. Плюс намякнуў , што магчыма рэфінансаванне ранейшага мільярднага крэдыту «Беларуськалію».

У пачатку калійнай вайны гучалі галасы, што ўжо зараз-то Лукашэнка даскакаўся, Масква размажет яго па сценцы. І раптам - атракцыён нечуванай шчодрасці. З чаго б гэта?

**Керымаў прамахнуўся**

Падобна на тое, «Уралкалій» не ўзгадніў сваю новую стратэгію продажаў на сусветным рынку (прасцей кажучы, выйгрыш за кошт абвалу цэн) з адміністрацыяй расійскага прэзідэнта, адзначыў у каментары для Naviny.by аналітык BISS (Вільнюс) **Андрэй Елісееў**.

Беларускі бок, паводле яго слоў, па-майстэрску гуляе на супярэчнасьцях паміж расійскімі бізнес- групоўкамі. І ў гэтым канкрэтным выпадку, верагодна, «мела інсайдэрскую інфармацыю, што Крэмль не будзе моцна заступацца за «Уралкалій».

У выніку Акела прамахнуўся: **Керымаў** з трэскам прайграў бліцкрыг. Прычым яго долю ў «Уралкалій», згодна з слівы, можа купіць хто-небудзь з людзей Пуціна - напрыклад, Уладзімір Коган. А свежыя заявы Лукашэнкі аб тым, што «Уралкалій» фактычна банкрут, могуць збіць кошт пакета акцый, адзначаюць аглядальнікі. Гэта значыць, зноў жа, аказаць паслугу пуцінскім.

Іншая справа, што склеіць разбіты гаршчок Беларускай калійнай кампаніі нават пасля змены ўладальніка «Уралкалія» будзе няпроста. І потым, сусветны рынак ужо адрэагаваў, на сёння ён практычна паралізаваны. За жнівень ўдалося паставіць на экспарт толькі 44 тысячы тон прадукцыі «Беларуськалія» - гэта дзве чайных лыжкі на фоне ранейшых продажаў.

Так што дзірку ў беларускіх фінансах гэтым багаццем айчынных нетраў ў бліжэйшай перспектыве не задзелаўся. Застаецца верны спосаб - раскручваць Крэмль на прэферэнцыі па палітычных меркаваннях. І ў гэтым плане для Менска таксама складаецца па-свойму спрыяльная кан'юнктура. Той выпадак, калі каму вайна, а каму маці родна.

Маецца на ўвазе канфлікт Масквы з Кіевам. Украіна, падобна, канчаткова адрываецца, падпісанне пагаднення аб асацыяцыі з ЕС на мазі, у сераду яго ўхваліў урад краіны. Надзеі Масквы зацягнуць «славянскую сястру» ў Мытны саюз ідуць прахам. Арменія ў гэтым сэнсе для замены відавочна нераўнацэнна. Такім чынам, каб еўразійскі праект Пуціна не сарваўся, крытычна важная лаяльнасць Лукашэнка.

**Менск возьме даніну за ўдзел у Еўразійскім саюзе**

У тым, што Уладзімір Пуцін не стаў сварыцца з беларускім калегам з-за калійнай справы, *«геапалітычны фактар мае вялікае значэнне»*, **лічыць беларускі палітолаг Алесь Лагвінец**. Калі мець на ўвазе непажаданы для расейскага кіраўніцтва еўрапейскі трэнд Украіны, то «Крамлю складана было б весці эканамічную вайну на два заходнія фронту», адзначыў Лагвінец у каментары для Naviny.by.

Паводле яго слоў, Лукашэнка спрабуе працягнуць гандаль, падымаючы цану свайго ўдзелу ў Еўразійскім саюзе. *«Не думаю, каб Крэмль пайшоў на вялікія саступкі інстытуцыйнага плана. Хутчэй за ўсё, гаворка будзе ісці аб кароткатэрміновых выгодах для Мінска ў выглядзе павелічэння нафтавай квоты, зніжанай цэны на газ, новага крэдыту»*, - прагназуе Лагвінец.

Сапраўды, хоць Сечын у Мінску і запэўніваў, што беларускія НПЗ не апынуцца на падсмоктванні, расійскае Мінэнерга слівамі праз СМІ працягвае палохаць зніжэннем паставак нафты па трубах у чацвёртым квартале. Яшчэ важней пытанне аб

*(працяг на стар. 4)*

НУ І НУ!..

# ЗАЙМАЛЬНАЯ МАДЭРНІЗАЦЫЯ

**На Ляхавіцкі льнозавод купілі абсталяванне, якое ніяк не змяшчаецца ў цэхі.**

Аляксандр Якабсон жорстка крытыкаваў кіраўніцтва Белаграсэрвісу і Ляхавіцкага льнозавода за неэфектыўную работу па мадэрнізацыі прадпрыемства.

У рамках кантролю за выкананнем даручэнняў Лукашэнкі па выхаду льняной галіны на эфектыўную працу, старшыня Камітэта дзяржкантролю Аляксандр Якабсон азнаёміўся з сітуацыяй на ААТ «Ляхавіцкі льнозавод» і правёў рабочую нараду па дадзенай тэме з удзелам зацікаўленых.

Якабсон жорстка раскрытыкаваў кіраўніцтва прадпрыемства і кіраўніка ААТ «Белаграсэрвіс» Лабушава за няздольнасць забяспечыць эфектыўную мадэрнізацыю льнозавода.

Высветлілася, што закупленае Белаграсэрвісу для ААТ «Ляхавіцкільнозавод» абсталяванне не месціцца ў наяўныя цэхі. Не хапае ні даўжыні, ні вышыні будынка.

У выніку паўстала неабходнасць распрацоўкі новага бізнес-плана, які прадугледжвае будаўніцтва дадатковага будынка, што, натуральна , прывядзе да падаражэння праекта. На думку спецыялістаў Камітэта дзяржкантролю тэрміны акупнасці новага бізнес-плана настолькі вялікія, што не дазваляюць казаць пра эфектыўнасць яго рэалізацыі.

Непрыемны асадак пакінула і азнаямленне з тэрыторыяй і цэхамі прадпрыемства (бруд звонку і безгаспадарчасць унутры). Шмат пытанняў паўстала да дырэктара льнозавода і па адсутнасці нармальных умоў для працы рабочых.

У ходзе праведзенай нарады Якабсон раскрытыкаваў мясцовыя ўлады, якія не выканалі даручэнне Лукашэнкі па завяршэнні ўборкі лёну да 25 верасня - у аптымальныя тэрміны. У цяперашні час у Брэсцкай вобласці паднята толькі 48 % льнотрасты ад плана вытворчасці. Адсюль і праблемы з якасцю льновалакна. Нават нягледзячы на тое, што характарыстыкі льнотрасты, атрыманай у Брэсцкай вобласці вышэй чым у іншых рэгіёнах краіны, яны не дацягваюць да патрэбных параметраў.

**kgk.gov.by**




ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗНІ

# МІКАЛАЙ АЎТУХОВІЧ У ЗНАК ПРАТЭСТУ ЎСКРЫЎ САБЕ ЖЫВОТ

**Пра гэта са спасылкай на крыніцу ў гродзенскай турме №1 піша «Платформа».**

Два гады запар Мікалаю Аўтуховічу выносяць спагнанні ў той час, калі сканчаецца пакаранні, накладзеныя раней.

«Платформа» піша, што 4 верасня, калі вязню заставаўся месяц да пагашэння усіх парушэнняў, на яго было накладзена новае спагнанне. Гэта пазбавіла яго магчымасці атрымаць пасылку і перадачу, сустрэцца са сваякамі.

Па непацверджанай інфармацыі, прычынай спагнання стала адсутнасць Аўтуховіча 26 жніўня на сваім спальным месцы пасля адбою.

Па версіі з той жа ананімнай крыніцы, эмацыйная рэакцыя Аўтуховіча на спагнанне тлумачыцца тым, што вязень старанна сыходзіць ад любых парушэнняў: «Яму, як вайскоўцу, не цяжка ўстаць раніцай і своечасова легчы спаць. Ён прызвычаўся да такога рэжыму. Прызвычаўся і па паўгода ні з кім не размаўляць, кажучы ў дзень па пары дзяжурных фраз — абы не даваць нагоды да далейшых правакацый».

Калі за Аўтуховічам замацуецца статус злоснага парушальніка, тэрмін яго зняволення можа быць падоўжаны.

Таксама вязню можа быць прызначаны прэвентыўны нагляд пасля вызвалення. Для такіх выпадкаў існуе артыкул 411 Крымінальнага кодэкса — злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацы выпраўленчай установы, што выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі.

Мікалай Аўтуховіч — прадпрымальнік з Ваўкавыска, ветэран-«афганец». Упершыню быў арыштаваны ў кастрычніку 2005 года. Абвінавацiўшы ў нявыплаце падаткаў, яго асудзілі на тры з паловай гады. Ён быў адным з шасці палітзняволеных, вызваленых у выніку жорсткіх санкцый ЗША і ЕС.

Мікалай Аўтуховіч другі раз быў арыштаваны 8 лютага 2009 г., асуджаны 6 мая 2010 г. Вярхоўным судом Рэспублікі Беларусь па ч. 3 арт. 295 КК (незаконныя дзеянні ў адносінах да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў) да 5 гадоў і 2 месяцаў пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму.

Рашэннем суда ад 17 студзеня 2012 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі № 5 у Івацэвічах ў турму № 1 г. Гродна.

РАСІЙСКІЯ СМІ ПРА БЕЛАРУСЬ

# «АРГУМЕНТЫ И ФАКТЫ»: ЛУКАШЭНКІ НЕ СТАНЕ Ў 2015 ГОДЗЕ

**Беларускі кіраўнік паставіў краіну на мяжу эканамічнага абвалу, піша расійскае выданне**

Арышт беларускімі ўладамі гендырэктара расійскай кампаніі **«Уралкалій» Уладзіслава Баўмгертнера** зноў паставіў Беларусь на мяжу эканамічнага абвалу (ужо трэцяга за апошнія 4 гады — услед за абваламі 2009 і 2011 гадоў), а прэзідэнцкі рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі — пад пагрозу падзення да новага гістарычнага мінімуму, пасля якога ён ужо не зможа быць выбраным прэзідэнтам у 2015 годзе, **піша Міхаіл Тульскі, прэзідэнт расійскага даследчага цэнтра «Палітычная аналітыка»**.

Прыхільнікі Лукашэнкі часта кажуць пра нібыта «эканамічны цуд» і «інавацыйны цуд», якія прадэманстравала «мадэль Лукашэнкі».

На справе ж цуды дэманструе зусім **не эканоміка Лукашэнкі, а ягофальшывая статыстыка і агрэсіўная прапаганда**.

Зрэшты, «паказчыкі» гэтыя разбіваюцца ў пух і прах пры першым жа супастаўленні з лічбамі вытворчасці ў натуральных велічынях, якія нязменныя пры любых коштах.

Так, лукашэнкаўская статыстыка кажа, што **нібыта ВУП у 2012 годзе** дасягнуў 193% да ўзроўню 1990 года, але галоўны паказчык любой эканомікі — вытворчасць электраэнергіі — зваліўся з 39,5 млрд кВт/г у 1990 годзе да 30,8 млрд кВт/г у 2012 годзе, гэта значыць складае толькі 78% ад узроўню 1990 года.

Прамысловую вытворчасць лукашэнкаўская **статыстыка-эквілібрыстыка** малюе ў 2012 годзе на ўзроўні нібыта 258% да 1990 года. У натуральным жа выражэнні нічога такога і блізка няма: галоўны артыкул беларускага экспарту — перапрацоўка нафты — звалілася з 39,442 млн т у 1990 годзе да 21,667 млн т у 2012 годзе, гэта значыць складае толькі 55% ад узроўню 1990 года.

Беларускага экспартнага тавару № 2 — мінеральных угнаенняў (амаль выключна калійных) — у 1988 годзе выпушчана 6,7 млн т, а ў 2013 годзе чакаецца вытворчасць у лепшым выпадку 5,3 млн т, гэта значыць на ўзроўні 79% ад пікавых савецкіх паказчыкаў.

Такая ж сітуацыя і ў будаўніча-інвестыцыйнай сферы: лукашэнкаўская статыстыка кажа пра нібыта 224% да ўзроўню 1990 года, натуральныя ж паказчыкі дэманструюць зусім іншую сітуацыю: **у 1989 годзе пабудавана 5,650 млн м2 жылля, а ў 2012 годзе — 4,487 млн м2 або 79% да ўзроўню 1989 года**.

І калі ў 2009 годзе Аляксандру Рыгоравічу ўдалося такім шляхам не дапусціць падзення свайго электаральнага рэйтынгу, то на мяжы **2010–2011 гадоў атрымалася роўна адваротнае**:

Лукашэнка справакаваў нечакана моцную рэакцыю ў адказ расейскіх уладаў, якія замянілі занадта льготныя 50%-я кошты на газ, нафту і нафтапрадукты менш льготнымі і больш набліжанымі да рынкавых (якія ў пачатку 2011 года да таго ж яшчэ і выраслі).

У выніку таварны дэфіцыт **знешнегандлёвага балансу Беларусі вырас у 1 квартале 2011 года з 1,2 да 3 млрд даляраў** (з якіх 90% прыйшлося на РФ), у Беларусі паўстаў сур'ёзны дэфіцыт валюты, які яшчэ больш вырас пасля крытычных рэпартажаў расейскага ТБ. Вынікам стаў абвал курсу беларускага рубля да даляра ў 3 разы, амаль таксама выраслі і кошты і, адпаведна, збяднела беларускае насельніцтва.

У выніку, у верасні 2011 года рэйтынг Лукашэнкі ўпаў, **па дадзеных НІСЭПД, да 20,5%**, стаўшы самым нізкім за ўсю 17-гадовую гісторыю вымярэння рэйтынгу Лукашэнкі. Пасля гэтага, вядома, Лукашэнка запанікаваў і пагадзіўся прадаць «Белтрансгаз» «злым расейскім алігархам» нават танней таго кошту, які ён да абвалу называў «моцна заніжаным» і «рабаўніцкім».

Пасля таго, як **Расея атрымала «Белтрансгаз»**, яна ў пачатку 2012 года знізіла для Беларусі кошт на нафту на 10%, а на газ — на 28%, рэальная ж зніжка была яшчэ вышэй, так як сусветныя кошты нафты і газ зноў выраслі на 10–20%.

Увогуле, Расея зноў стала прадаваць Беларусі нафту прыкладна на 45%, а газ — на 50% танней сусветных коштаў. Пры гэтым на мяжы 2012–2013 гадоў Расія зноў панізіла кошты на нафту і газ для Беларусі на 3–5%. У выніку гандлёвы баланс з дэфіцытнага стаў прафіцытным, сітуацыя ў эканоміцы стала наладжвацца, зарплаты і пенсіі сталі набліжацца да таго ўзроўню, які быў да абвалу.

Цяпер жа эканоміка Беларусі зноў забарахліла: калі ў 1 паўгоддзі 2012 года ў Беларусі **быў таварны прафіцыт знешняга гандлю** (экспарт перавышаў імпарт) ў 1,9 млрд даляраў, то ў 1 паўгоддзі 2013 года ён змяніўся **таварным дэфіцытам у 1,7 млрд, прычым усё больш нарастаючым**: у 1 квартале імпарт перавышаў экспарт на 0,6 млрд, а ў 2 квартале — ужо на 1,1 млрд. экспарт беларускіх тавараў зваліўся з 25,3 млрд у 1 паўгоддзі мінулага года да 19,2 млрд у 1 паўгоддзі гэтага або на 24%. У гэтай сітуацыі нават хітрая лукашэнкаўская статыстыка вымушаная паказваць спад у прамысловасці ў 6–10% у траўні-ліпені і ВУП на 0,5% у 2 квартале (да тых жа перыядаў мінулага года) — рэальны спад, вядома, яшчэ больш.

У гэты раз, **падобна, паўторыцца варыянт 2011 года**, калі «бяскрыўдная» гульня «ў вайну» прывяла да сур'ёзных эканамічных санкцый з боку Расеі, вынікам якіх стаў абвал у 3 разы як беларускага рубля, так і рэйтынгу Лукашэнкі.

Спачатку млявы канфлікт Лукашэнкі з «Уралкаліем» ужо прывёў да прыкметнага падзення цэнаў на калійныя ўгнаенні, якія з'яўляюцца другім пасля нафтапрадуктаў **артыкулам беларускага экспарту (7%) і даходаў беларускага бюджэту (10%)**: калі ў мінулым годзе беларускія вытворцы прадавалі яго ў далёкае замежжа па 742 даляраў за тону, то ў гэтым годзе — па 638, прычым для кітайцаў зробленая яшчэ вялікая зніжка — да 593 даляраў.

Пасля канфлікту ж Лукашэнкі з «Уралкаліем» аналітыкі загаварылі пра зніжэнне кошту да 270–300 даляраў!

Напрыклад, пакуль Мінфін РФ не адмаўляецца ад прадастаўлення Беларусі чарговага крэдыту ў 440 млн. даляраў, а можа ж і адмовіцца: бо знешняя пазыка Беларусі ўжо дасягнула 16 млрд. даляраў і наўрадці краіна ў стане іх аддаць…

Пасля ўсіх «мер уздзеяння» з боку Расеі яшчэ больш павялічыцца дэфіцыт гандлёвага балансу Беларусі, які расце і без таго. А за ім непазбежна рушыць услед і новы абвал беларускага рубля і, як следства, новае збядненне насельніцтва Беларусі, якое прывядзе **да падзення рэйтынгу Лукашэнкі да новага гістарычнага мінімуму ў 10–15%**, пасля якога яму будзе ўжо не падняцца вышэй за 25% да выбараў прэзідэнта 2015 года, а гэта будзе азначаць непазбежнае паражэнне.

*(пачатак на стар. 3)*

нафтавым балансе на будучы год - напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Перад барацьбой за чарговы тэрмін праўлення нязменнаму прэзідэнту быў бы вельмі дарэчы і яшчэ адзін крэдыт па лініі Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС (ці пад любым іншым соусам).

Такім чынам, сёння беларускаму кіраўніцтву зручней за ўсё канвертаваць ў расійскія прэферэнцыі свой удзел у стварэнні Еўразійскай саюза. Не выпадкова гэтую тэму Лукашэнка падняў у чацвер у Менску на тым самым нарадзе, на якім загаварыў аб экстрадыцыі **Уладзіслава Баўмгертнера**: *«З пачатку 2015 года, я ўпэўнены, пачне працаваць новы эканамічны саюз... Гэты калійны скандал ні ў якім выпадку не павінен стаць каменем перапоны у адносінах не толькі паміж дзяржавамі, але і паміж двума прэзідэнтамі».*

***(скарочана)***

**Аляксандр Класкоўскі**
**Белапан**

ВАКОЛ ХАКЕЯ

# ЧАВУСАЎ: РОЗГАЛАС ВАКОЛ МЕНСКАГА ЧЭМПІЯНАТУ ЎЖО ДАЎ ПЛЁН

**Аляксандар Лукашэнка абавязаў застрахаваць страты ў выпадку адмены, байкатаваньня або пераносу тэрмінаў чэмпіянату сьвету па хакеі.**

Ці азначае такое рашэньне, што Лукашэнка на самой справе асьцерагаецца байкоту, ці гэта звычайная бюракратычная працэдура? Ці можна сказаць, што байкот менскага чэмпіянату яшчэ магчымы, і ці прыедуць на яго ўсе асноўныя хакеісты? На гэтыя пытаньні адказвае юрыст і палітоляг **Юры Чавусаў**.

**— Ці кіраўнік Беларусі сапраўды асьцерагаецца байкоту чэмпіянату, ці страхаваньне — гэта звычайная працэдура, якая існуе ва ўсіх краінах?**

— Страхаваньне арганізатарамі буйных міжнародных спартовых спаборніцтваў — упрынцыпе, звычайная рэч. Страхуюцца тыя пагрозы, якія могуць перашкодзіць ці сапсаваць правядзеньне гэтых мерапрыемстваў. А пагрозы бываюць з тых рызыкаў, якія ёсьць у наяўнасьці. І выдзяленьне ва ўказе Лукашэнкі сярод рызыкаў менавіта байкатаваньня альбо пераносу азначае, што такая рызыка сапраўды ёсьць.

Я думаю, наўрад ці гэты ўказ зьявіўся ў такой форме па волі самога Лукашэнкі. Я мяркую, маюць месца іміджавыя страты, якія ўжо атрымаў будучы чэмпіянат сьвету. Напэўна, гэты ўказ пакліканы супакоіць камэрцыйных партнэраў, Міжнародную фэдэрацыю хакею, дырэкцыю правядзеньня чэмпіянату. Маўляў, калі нешта здарыцца, то страты будуць кампэнсаваныя і камэрцыйныя партнэры гэтых арганізацый не пацерпяць.

**— Ідэя байкоту абмяркоўваецца даволі доўга, але выглядае, што байкот ня надта верагодны. Ці сапраўды байкот яшчэ магчымы, ці наадварот, тэндэнцыя зараз іншая і байкот малаімаверны?**

— Хоць размовы пра магчымы байкот будуць актывізоўвацца і надалей, сама магчымасьць пераносу чэмпіянату цяпер мінімальная. Гэта было магчыма аб'явіць за два-тры гады да чэмпіянату. Але калі засталося некалькі месяцаў, калі ўжо стартаваў той сэзон, у які ўпісаны гэты чэмпіянат — то, натуральна, фэдэрацыя хакею — па добрай волі ці нават пад нейкім ціскам — наўрад ці на гэта пойдзе.

Хаця вельмі верагодны не агульны байкот і не байкот з боку асобных зборных — асобныя спартоўцы могуць на знак пратэсту супраць правядзеньня чэмпіянату ў аўтарытарнай краіне заявіць пра свой няўдзел у гэтым чэмпіянаце.

Адзначу й іншы аспэкт гэтай справы. Пратэсты супраць правядзеньня Чэмпіянату сьвету па хакеі ў Беларусі былі заўважаны міжнароднымі спартовымі ўладамі, і сёлета ў траўні на міжнароднай канфэрэнцыі міністраў у межах UNESCO была прынятая дэкларацыя, якая ў тым ліку заклікала арганізатараў спартовых спаборніцтваў пры вызначэньні месца правядзеньня ўлічваць і гуманітарны аспэкт. І гэта першы крок да ўвядзеньня тэмы правоў чалавека ў пералік тых крытэраў, якія вызначаюць месца правядзеньня буйных спартовых спаборніцтваў. Такім чынам, розгалас вакол менскага чэмпіянату ўжо даў плён, які адлюстраваны ў канкрэтных дакумэнтах міжнародных структураў.

**Радыё "Свабода"**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 29.09.2013 у 17.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.